Год выдавецтва 1. ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАРКОЎНА-ГРАМАДЗКІ і ПАЛІТЫЧНЫ, ДВУТЫДНЁВІК.

№ 5 | 1 СЬНЕЖНЯ. | 1927 г.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Людвісарская вуліца № 1.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА да канца года 1 зл. 50 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр., за рад. пэтыта.

## „Юпітэр злуецца".

У Варшаўскім Урадавам офіцыозе „Эпоха" ад 18 лістапада зьмешчана перадавіца аб выбарным блёку нацыянальных меньшасьцяў. Стацьця сьцьвярджае, што адныя думкі аб гэтым ужо выклікаюць у Польскім грамадзянстве „пачуцьцё ненавісьці" да нацыянальных меньшасьцяў, бо, як гаворыць газэта, блёк 1922 году быў створаны не на грунце агульных нацыянальных, эканамічных, палітычных патрэб, а быў „загаворам проціў дзяржавы", інспіраваным і падтрымываным са стараны.

Так піша Эпоха, выяўляючы думкі ўраду, якому, як відаць, аж надта ня падабаецца магчымасьць выбарчага аб'яднаньня меньшасьцяў. Рэч зразумелая. „Эпоха" ведае, што толькі за помачай блёку меньшасьцёвыя нацыянальнасьці могуць здабыць сабе прадстаўніцтва ў Сойме, якое-б больш меньш адпавядала-бы агульнай лічбе кожнае меньшасьцевае нацыянальнасьці. А калі прыняць пад увагу, што меньшасьці, навучаныя апошнімі выбарамі ў Сойм і агульнымі адмоўнымі адносінамі да іх як польскага грамадзянства, так і Ўрадаў на працягу пяцёхгадовага апошняга перыоду, могуць выправіць свае апошнія выбарныя памылкі, могуць адмяніць байката-

ваньне выбараў, якое мела мейсца ў апошніх выбарах са стараны Галіцыі і літвіноў, — і пайсці да выбараў адзіным супольным фронтам, дык тагды стане аж надта ясным, чаму «рве і мечыць» Эпоха. Яна баіцца, каб у наступным Сойме ня павялічылася лічба меньшасьцявых прадстаўнікоў, каторыя маглі-бы ў ім адыгрываць значную ролю.

Але наразе нас цікавяць больш тыя матывы, якія прыпісывае Эпоха нацыянальным меньшацям у іх адносінах да Польскае дзяржавы. Стацьця падкрэсьлівае, што галоўным матывам стварэньня блёку былі і ёсьць варожыя адносіны нацыянальных меньшасьцяў наагул да Польшчы, што блёк — гэта проціўдзяржаўны загавар і г. д.

Але хто хоць троху прыглядаўся да адносін паміж Польскім Урадам і грамадзянствам з аднае стараны і меньшасьцямі — з другое, дык ён мог адразу заўважыць, што нападаючай староной заўсёды былі Урад і польскае грамадзянства. Меньшасьці толькі абараняліся ад гэтых нападкаў.

Возьмем першае: прызнаньне самага існаваньня меньшасьцяў. Здаецца гэты факт надта выразна падкрэсьлены і ў Вэрсальскім трактаце і ў Канстытуцыі і ў Рыскім трактаце. А ці ня помніць „Эпоха“, на працягу якога часу, асабліва славянскім меньшасьцям, прыходзілася весьці барацьбу, каб польскае грамадзянства згадзілася прызнаць, што ў межах Польшчы ёсьць беларусы, украінцы, літвіны і г. д. З яго погляду на так званых „крэсах“ былі толькі „тутэйшыя“ людзі, каторых, нават ня пытаючыся аб іх нацыянальным пачуцьці, запісывалі ў польскі нацыянальны абоз. Патрэбна была цэлага пэрыоду жорсткае барацьбы, каб дабіцца ад польскага грамадзянства прызнаньня самага існаваньня, г. ё. таго, аб чым выразна гаворыцца ў грунтавых законах ўсказаных трактатаў. Патрэбна была такая лекцыя, як першы выбарны блёк нацыянальных меньшасьцяў з яго вялізарным пасьпехам, каб пераканаць польскае грамадзянства, што мы існуем і што нам належаць некія палітычныя правы. Хто, як ня польскае грамадзянства вызвала на гэты крок нацыянальныя меньшасьці, калі яно' у асобе сваіх прадстаўнікоў у Конституцыонным Сойме, яскрава выявіла сваю варожасьць да іх, стараючыся за ўсялякія магчымасьці скрыўдзіць іх у самых элемэнтарных правох. Досьць заглянуць у выбарчую ардынацыю, створаную канстытуцыйным Соймам, каб пераканацца ў гэтым. Першае, што кідаецца ў вочы ў гэтай ардынацыі — дык гэта нераўнамернасьць прадстаўніцтва. Калі з польскіх вакругоў, паводле ардынацыі, выбіраўся адзін прадстаўнік у Сойм прыблізна ад 45 тысячаў, дык на „крэсах“ гэта лічба была павялічана амаль што на ўдвое. Выхадзіла, што ў сэнсе палітычным адзін польскі грамадзянін мае такую-ж вагу, як два „крэсавых абыватэлі“. Такім спосабам нацыянальныя меньшасьці, пры самых найлепшых другіх варунках, маглі атрымаць толькі палову належачых ім, паводле прынцыпу раўнапраўнасьці, прадстаўнікоў у Законадаўчых Установах. Але і на гэтым ня скончылася абмежаваньне нацыянальных меньшасьцяў у іх палітычных правох. Пашлі далей. Калі сталі краіць выбарчыя вокругі, дык і тут ня вытрымалі, каб ня адцягнуць часткі ад славянскіх меньшасьцяў. Гдзе толькі было магчыма, пастараліся прышыць часткі „крэсавых тэрыторыяў“ да

чыста польскіх вокругоў. Так Горадзеншчыну далучылі да Аўгустоўшчыны, Бельшчыну да Астроўшчыны. Усё гэта рабілася, каб пазбавіць меньшасьці адпаведнай лічбы прадстаўнікоў і г. д. І вось пасьля гэтага „Эпоха“ цьвердзіць, што блёк быў створаны не на падставе палітычных патрэб!

Калі прыглядзецца да дальшага захаваньня прадстаўнікоў нацыянальных меньшасьцяў, дык яно само адкідае закіды „Эпохі“. Найперш трэба адмеціць, што блёк існаваў толькі ў часы выбараў.

Як толькі ўвайшлі прадстаўнікі меньшасьцяў у Законадаўчыя Установы, дык там яны адразу падзяліліся па нацыянальным групам, з рожнымі у кожнае групы заданьнямі і імкненьнямі. У дальшым працягу і самыя нацыянальныя клюбы падзяліліся на некалькі партыяў паводле іх сацыяльных поглядаў і імкненьняў.

Далей, першая праца меньшасьцявых прадстаўнікоў сьведчыць, што тагды яны зусім стаялі на грунце поўнае лояльнасьці да Польскае дзяржаўнасьці, так яны прынялі дзейны ўдзел у выбарах першага прэзыдэнта Нарутовіча, яны-ж падтрымоўлівалі і ўрад Сікорскага. Але гэтае імкненьне меньшасьцёвых прадстаўнікоў да дзяржаўнае супрацоўнасьці адразу наткнулася на варожыя адносіны польскага грамадзянства. Прэзыдэнт Нарутовіч быў забіты аднім з прадстаўнікоў гэтага грамадзянства толькі за тое, што пры выбарах на яго карысьць схілілі палітычную вагу галасы меньшасьцёвых прадстаўнікоў. Урад Сікорскага зваліла польская правіца разам з Пястам.

Адзіны гэты апошні прыклад можа служыць ясным довадам таго, што іншы раз меншасьці значна лепш разумелі патрэбы і выгады польскай дзяржавы, чым большасьць польскага грамадзянства. За пяць месяцоў істнаваньня ўраду Сікорскага, якога падтрымовывалі меньшасьці, польская марка абнізілася толькі ў два з паловай разы, а за пяць месяцаў ураду Вітаса, падтрыманага **чыста польскай** большасьцяй, марка спала **ў тысячу разоў**.

Гэта дужа яскравы прыклад, паказываючы, хто большы вораг польскай дзяржавы, ці меньшасьці, ці... бязмежны польскі шовінізм, які ня можа ўжыцца з думкай аб тым, што побач з палякамі ёсьць і іншыя народнасьці, якія хочуць так сама жыць сваім нацыянальным жыцьцём, — што правы ў Канстытуцыі даюцца ня толькі для прыгожага слова а і для самага жыцьця!

Вось і цяпер, калі блёк нацыянальных меньшасьцяў, выкліканы ў жыцьцё самой выборчай ардынацыяй, самім польскім уставадаўчым Соймам, яшчэ толькі творыцца, яшчэ толькі налажываецца (а можа і не наладзіцца!), польская грамадзянства і ўрад ужо прыймае да яго варожы тон і авансам абвінавачывае ў загаворы...

Што адказаць ім на гэта? Уперад за ўсё старым лацінскім прыслоўем: „Юпецер“ ты злуешся, знача ты ня праў!, — ты вінават сам, бо сам становішся у варожыя адносіны да нацыянальных меньшасьцяў. А нам, гэтым меньшасьцям, астаецца толькі запісаць і гэта на рахунак, дадаць яго да ўсіх іншых праяваў меньшасьцявай палітыкі і цясней згуртавацца ў адзіны выбарны фронт, каб правясьці ў новы Сойм сваіх прадстаўнікоў — барацьбітаў за нашы нацыянальныя і соцыяльныя правы! Бо гэта адзіны праўдзівы шлях!

**В. Васілевіч.**

# Аўтокефалія.

У г.г. 1924—25, ды раней справа аўтокефаліі праваслаўнай царквы у Польшчы разглядалася дужа востра у прэсэ і расейскай, і беларускай, і польскай. У апошнія часы споры аб гэтым сталі неяк патроху зацiхаць, але астатнія здарэньні, асабліва пісьмо мітрап. Сергія, заступаючага ў гэты час местаблюсьціцеля патрыаршага прэстолу ў Маскве,—м. Пятра,—г. е. часовага галавы Усерасейскай царквы, з запросам да м. Діонісія аб падставах, на якіх утворана аўтокефалія у Польшчы, ізноў падагрэла зацікаўленьне да гэтага пытаньня сярод праваслаўнага грамадзянства.

Гэта дае повад і нам разглядаць гэтую справу з погляду царкоўна-канонічнага.

Самае слова „аўтокефалія" (з грэцкага: „аўтос"—сам, а „кефалі"—галава) азначае „самагалоўе". Такім словам на царкоўнай мове азначаецца незалежнае існаваньне аднэй царквы ад іншых у сваім унутраным упраўленьні. Аўтокефальная царква мае „сваю галаву, г. е., свайго галоўнага („первенствующаго") архіерэя, каторы кіруе справамі царквы незалежна ад іншых цэркваў.

Кананічнай падставай аўтокефальнага існаваньня царквы зьяўляюцца 34 правіла сьв. апастолаў і 24 правіла карфагенскага сабору.

34-е апастольскае правіла гаворыць, што „епіскапам (архіерэям) **кожнага народу** трэба уважаць аднаго з іх як галаву і нічога без яго ведама не рабіць апроч таго, што датычыць толькі сваей епархіі; але і гэты галоўны нічога (агульнага і супольнага) ня можа рабіць бяз згоды ўсіх. Так будзе ў царкве, гавора далдй правіла, „**единение**" падобна таму, якое ёсьць у самай Сьв. Тройцы паміж Айцом, Сынам і Сьв. Духам".

24-е правіла карфагенскага сабору паказывае нам той парадак, у якім могуць паўставаць новыя аўтакефальныя цэрквы. Там гаворыцца, што Нумідзійская царква атрымала свайго асобнага „первенствующчага" (галоўнага архіерэя) **па яе прозьбе, са згоды ўсіх другіх первенствуюшчых і з благаславеньня сабору**".

На падставе гэтых кананаў найлепшыя царкоўныя кананісты уважаюць гэтакія царкоўныя варункі за неабходныя для стварэньня новых аўтакефальных царкоўных адзінак:

1) Жаданьне іерархіі дадзенай царквы.

2) Згода і багаславеньне усіх іншых аўтакефальных цэркваў а асабліва

3) згода і багаславеньне царквы—маткі (той, ад якой дагэтуль гэта царква залежыла) і

4) імкненьне да аўтокефальнага царкоўнага існаваньня усяго царкоўнага народа дадзенай царквы.

Трэба сказаць, што ў гісторыі праваслаўнай царквы далёка не заўсёды заховываліся усе гэтыя варункі, але трэба адзначыць і тое, што невыкананьне хоць аднаго з іх заўсёды вяло да розных царкоўных смутаў, ці большых, ці меншых у залежнасьці ад таго, якія з гэтых правілаў нарушаліся меньшыя, ці галаўнейшыя. І вось тут трэба адзначыць, што галоўнейшым з гэтых варукнаў з'яўляецца бязумоўна імкненьне да аўтокефаліі усяго царкоўнага народу, бо ад гэтага больш меньш залежаць і усе астатнія варункі.

Запраўды! Утварэньне новай аўтакефальнай царквы ў жыцьці царкоўным адбываецца заўсёды падобна нараджэньню фізычнаму, не дарма царква ужывае такія выразы як „цэрковь"—мать", „цэрковь-дочь". Калі новая царква-дачка развілася і дасьпела так, што ужо здольна да самастойнага без царквы-маткі існаваньня, то гэта астатняя ужо ня можа затрымаць працэс аддзяленьня як і фізычная матка ў сваім лоні рожджаньня дзіцяці.

Гістарычныя прыклады дужа ясна сьцьверджваюць гэта. За найлепшы прыклад нармальнага паўставаньня новай аўтакефальнай адзінкі можна уважаць аддзеленьне Маскоўскага патрыархату ад Канстантынопальскага ў 1589 годзе. Ня гледзячы на тое, што Маскоўская мітраполія даўно ужо жыла фактычна незалежным ад Канстантыно-

паля царкоўным жыцьцём, больш таго, што яна сама да сваей маткі — Візантыйскай царквы, ад якой прыняла хрысьціянства, стала ўжо даўно у адносіны карміліцы, апякуншы, а нарэшце нават і абаронцы ад уціскаўшых яе туркаў, але ўсё-ж яна не сьпяшыла аддзеляцца ад Візантыі. Аддзялілася толькі тады, калі Масква зусім стала незалежнай палітычна (ад татараў) і на самым жыцьці сваім паказала здольнасьць да незалежнага царкоўнага існаваньня. Пры гэтым самы акт прайшоў са згоды Візантыі у прысутнасьці яе найвышэйшага іерарха на вялікім саборы з удзелам ня толькі расейскіх іерархаў, але і цара і прадстаўнікоў Земства, г. ё. народу.

Наадварот, усе пробы увядзеньня аўтакефаліі у Польшчы у XIV—XV стаг. былі ня ўдалымі і нядоўгачаснымі, бо заўсёды былі аднабочным актам ураду, паноў і вышэйшай іерархіі без ніякага учасьця царкоўнага народу.

Але калі гэтыя амылкі рабіліся у Польшчы у тыя гады, калі ў ей была манархія і арыстакратычны (панскаўладны) строй, дзіўным здаецца, што па гэтаму мыльнаму кірунку пайшла і сучасная „дэмакратычная" Польшча, якая-б, здавалася, перш за ўсё павінна была-б лічыцца з народнай апініяй, тым больш, што фармальных каналічных падставаў для утварэньня аўтокефалі ня было.

34-е апост. правіла, як мы бачылі, вымагае для аўтакефальнай царквы, каб яна была царквой **асобнага народу**, але-ж гэта паняцьце дужа трудна дастасаваць да праваслаўнага насяленьня Польшчы, дзе праваслаўнымі зьяўляюцца не палякі, а нацыянальныя меньшасьці, большыя часьці якіх уваходзяць у склад суседняй дзяржавы. Пры гэтым трэба адзначаць, што і самы склад праваслаўных у Польшчы далёка не такі, што можна падняць пытаньне амаль што не аб трох аўтокефаліях.

Ясна, што правідловым сэнсам гэтага правіла і гэтымі разважаньнямі кіраваўся і патрыарх Ціхан, калі на прозьбу польскага пасла Філіпковіча аб аўтокефаліі даў гэтакі адказ:

„Сьвяшчэнныя каноны нашай царквы прэдугледжываюць аўтакефалію для **„асобных самастойных" народаў**. Калі-б польскі народ, атрымаўшы недаўна суверэннасьць, быў праваслаўны і прасіў-бы аўтокафалію **для сябе**, то мы-б яму ў гэтым не адмовілі. Але даваць аўтакефалію разнапляменным праваслаўным, пражываючым у межах польскай дзяржавы на становішчы рэлігійных і нацыянальных меньшасьцяў, нам ня дазваляюць ні здаровы розум ні, сьвяшчэнныя каноны. Што магчыма, тое мы ўжо далі Польшчы, памясцовую (помѣстную) царкоўную аўтаномію".

Нельга не згадзіцца з тым, што патрыарх меў поўную рацыю з пункту гледжаньня каналічнага, а нават і жыцьцёвага. Не маючы перад сабой доказаў імкненьня ўсяго праваслаўнага царкоўнага народу да аўтокефаліі, ён нават і ня мог сам, без сабору, вырашыць гэтага пытаньня. Аўтаномія, фактычная незалежнасьць пры залежнасьці юрыдычнай нават і патрэбна была для таго, каб на практыцы дазнацца, ці ёсьць рэальныя варункі для аўтакефальнага існаваньня царквы ў Польшчы.

Гэтымі рэальнымі варункамі і магло-б быць тое, каб народ сам **захацеў** аддзяліцца ад усей расейскай царвы. Але-ж для гэтага патрэбна, каб гэты праваслаўны народ у Польшчы **адчуў** сябе запраўды асобным народам, калі не ў нацыянальным сэнсе, дык у палітычным. Дзеля гэтага патрэбна стварыць такія грамадзянска-палітычныя варункі, пры якіх уся гэтая праваслаўная рэлігійная меньшасьць,—ня толькі вышэйшая іерархія, але кожны сьвяшчэньнік, кожны праваслаўны парафіянін,—адчуваў сябе ў Польшчы не бясправаўным за тое, што ён ёсьць праваслаўны, а поўнапраўным грамадзянінам, карыстаючымся ўсім тым, на што маюць права і ўсе іншыя грамадзяне.

Гэтага ня толькі ня зрабіла Польшча, але-ж зрабіла, як наўмысьльне, ўсе тое, каб зьнішчыць гэта пачуцьцё адбіраньнем праваслаўных цэркваў, і перадачай іх каталікам, падтрымліваньнем уніі, перадачай уніятам праваслаўных царкоўных будынкаў, адабраньнем „абыватэльства" ад духавенства, звальненьнем прапаслаўных з пасад і г. д.,— ўсім гэтым яна паставіла праваслаўных на становішча грамадзян другога сорту і псіхалёгічна змусіла іх страціць веру ў магчымасьць праўнага існаваньня ў Польшчы і стаць у пазыцыю „чакаючых" вызваленьня з такога становішча.

Паўтараецца тое, што было ў XVII—XVIII в.в., калі так сама рэлігійныя ўціскі стварылі імкненьне на ўсход, якога не магло ўжо пасьля ўстрымаць ня конституцыя 3-га мая, ня Пінская конгрэгацыя, якая давала вольнае істнаваньне праваслаўнай царкве, бо народ ужо страціў веру.

Яшчэ важней для стварэньня „рэальных падставаў" да аўтакефаліі гэта вярнуць царкве яе ўнутрэньнюю свабоду, якую царква ўтраціла прымусова „навязаным" ей кансысторскім бюрократычным строям і неканонічнай іерахіяй. Трэба даць ёй магчымасьць свабоднай ўнутранай арганізацыі на кананічных падставах, каб яна магла адчуваць сябе жывым і незалежным у сваім духоўным жыцьці арганізмам,—каб кожны член царквы мог стаць дзеяльным учаснікам царкоўнага жыцьця ў меру сваіх сілаў і іерархічнага становішча.

Бяз гэтага пачуцьця духоўнай самастойнасьці ня можа быць мовы аб рэальных асновах да аўтакефаліі, ня можа быць самостойным тое цела, якое ня мае правідловага устройства; такое цела ня ёсьць **арганізм**.

Царква, як гаворыць сьв. Кіпрыян,— ёсьць plebs episkopo suo adunita: „царква ёсьць народ, аб'яднаны са сваім епіскопам, са сваей іерархіяй".

У царкоўным жыцьці заўсёды павінна ўсё рабіцца так, як робіцца ў царкве-„храме", дзе на кожную малітву свайго пастыра народ адказывае сваім: „амінь". Там, дзе няма гэтага „амінь", няма **царкоўнага** (агульнага, „общественнага") багаслужэньня; дзе няма учасьця ўсяго царкоўнага народа ў жыцьці царквы, — няма царкоўнага жыцьця.

Гэты памылковы кірунак улады ў справе стварэньня аўтокефаліі зразумелі шмат хто ўжо і сярод самага польскага грамадзянства. Вось што, напрыклад, пісаў яшчэ ў марцы месяцы 1925 г. кракаўскі „Napszód":

„Замест таго, каб падайсьці да разрашэньня справы простай дарогай, якая ясна абмяжовываецца кананамі ўсходняй царквы, Польскі ўрад стаў імкнуцца да вырашэньня яе акольным шляхам пры помачы перасьледаваньня і ўціску, як быццам патрэбна было абходзіць кананічнае праваслаўнае права, якое іменна ў гэтым пытаньні аказала-б вялікую ўслугу.

„Аснаўным выхадным пунктам для ўсякага працэсса „аўтакефалізацыі" зьяўляецца перш за ўсё **згода самай царквы**, безпасярэдня ў гэтым зацікаўленай. Чым-жа зьяўляецца, згодна з усходнім канонічным правам, сама царква? Яна складаецца з усіх верных і духавенства ўсіх ступеняў, а агульная воля ўсей царквы можа быць выяўлена толькі на царкоўным саборы, у якім прынялі-б удзел ня толькі вышэйшыя праваслаўныя іерархі, але і прадстаўнікі ніжэйшага духавенства і міран".

Тое самае нядаўна пісала і газэта „Kurjer Warszawski" (№ 298): Гістарычныя дасьвядчаньні ў справе паўстаньня і ўтрыманьня аўтокефаліі вучаць, што тут рашаючае значэньне мае ўнутраная духоўная сіла і арганізаванасьць царквы імкнучайся да самастойнасьці". — як раз тое, аб чым і мы гаварылі вышэй. **В. Багдановіч.**

# „Ганімая і таржаствуючая".

**Ад Рэдакцыі.** У сувязі з сьвяткаваньнем 10 угодкаў істнаваньня Савецкай улады ў Расеі, ці як цяпер гавораць, у С.С.С.Р., цікава ўзглянуць, як адбілася савецкае жыцьцё на палажэньні і жыцьці там праваслаўнае царквы. Як ведама, камуністы, якія у працягу 10 гадоў правяць вялізарнай старанной з больш як паўтараста мільёным насяленьням, аднэй з сваіх галоўных мэтаў лічуць барацьбу з рэлігіяй, якая, паводле іх зданьня, зьяўляецца „опіумам, г. ё. дурманам для народу". Прыймаючы пад увагу, што галоўнай рэлігіяй, якой трымаюцца, паводле савецкай статыстыкі, каля 85% усяго насяленьня, ёсьць

рэлігія праваслаўная, аж надта зразумела, што Савецкі ўрад скіраваў галоўную сваю ўвагу на барацьбу і разлом праваслаўнае царкы. Цяпер па ўплыве 10 гадоў гэтай барацьбы, калі Саветы так урачыста адсьвяткавалі 10—угодкі сваей улады, цікава ўзглянуць, якіх вынікаў дабіліся яны ў адным са сваіх галоўных заданьняў.

З гэтага поваду мы зьмешчаем адрыўкі з артыкулу п. Шалфеева: „Гонімая и торжествующая", зьмешчанага ў рыскай газэце „Сегодня", які яскрава рысуе жыцьцё праваслаўнай царквы ў Расеі.

**Рэдакцыя.**

---

„Гэтымі днямі",—піша Шазфееў, „я быў прысутны на антырэлігійным сходзе, дзе быўшы дыякан Шпалка і нейкі Катынь з Ліфляндыі, грамілі ралігію і казалі, што яна ўжо „б'ецца ў апошніх канвульсыях". Захацелася праўдзіць яго словы, заходжу ў царкву.

Ня хочацца ўжываць затасканы тэрмін „перапоўнена",—але якое слова ўжыць, калі запраўды ледзь магу праціснуцца праз гэты натоўп.

Але мяне дзівіць ня столькі колькісьць малячыхся, сколькі іх склад. Ён катэгарычна адкідае словы агітатара, быццам царква трымаецца толькі на старыкох і старухах. У царкве шмат моладзі, але што найцікавей, дык гэта склад царкоўнага хору. Сьпявае моладзь хорысткі-дзяўчата ўсе ў белых хустачках, прыпамінаючых вопратку „сясьцёр міласэрдзія". Гэта так-званае „сестрынства"—жаночая арганізацыя пры парафіі.

Багаслужэньне адпраўлялі два сьвяшчэнікі, пры гэтым асабліва я зьвярнуў увагу на аднага, маладзейшага. Ен казаў кароткае павучэньне, простае, усім зразумелае, але з яго слоў можна вывясьці, што гэта чалавек высакаінтэлігенты.

Багаслужэньне скончылася, царква апусьцела. Але абодвух сьвяшчэньнікаў абступіла таўпа. Мне стала ясным, што гэтыя сьвяшчэньнікі карыстаюцца сярод рабочага люду вялікай папулярнасьцю. Дзеля гэтага зразумела маё жаданьне пагаварыць з імі. Жаданьне гэтае яшчэ больш узрасло, калі я пры помачы пытаньняў даведаўся, што гэты аратар—быўшы прафэсар, нядаўна, ўсяго некалькі гадоў назад, пpыняўшы сьвяшчэнства.

Чакаць прыйшлося доўга. Народ каля гадзіны не адпускаў свайго сьвяшчэніка, дзелячыся з ім сваімі мненьнямі, пыталіся яго парадаў у розных справах. Я застаўся апошнім.

На жаль не магу прыняць вас у сваей кватэры, я жыву за местам, але ў дні багаслужэньня начую на званіцы. Памешканьне невялічкае, але сядзець можна,—сказаў прафэсар.

Па вузкай каменнай драбіне падымаемся мы на званьніцу і заходзім у маленькі пакойчык. Там ледзь зьмяшчается маленечкі столік, ложка і полка з кнігамі.

Я пачаў з таго, што сказаў, што быў на антырэлігійным мітынгу, і спытаўся, ці моцна атэістычная прапаганда дзеець на народную масу. Сьвяшчэнік усьміхнуўся.

— Скажыце, ці шмат было народу на мітынгу?

— Малавата, прызнаўся я, асоб 30.

— Ну а ў нас вы бачылі некалькі сот малячыхся, як бачыце і досіць добры хор маем, „сестрычэства", наладжана агульнае пяяньне шэрагу малітваў. Я не павялічу, калі скажу, што лік маей паствы расьце.

— Ну, а як-жа перасьледаваньні, ганеньні?—зацікавіўся я.

— Адносіны савецкай ўлады да нас веруючых—адказаў бацюшка,—базуюцца на тым, што з пункту гледжаньня камунізма рэлігія з'яўляецца шкодным пеpажыткам, і партыя прыймае ўсе меры, каб адхіліць народ ад царквы. Гэта звычайная барацьба дзьвёх ідэй, і пабеда будзе на баку таго, за кім праўда. Антырэлігійнай прапагандзе мы праціўпастаўляем казаньне, рэлігійные сходы, царкоўнае жыцьцё. На нашым баку ўся народная гушча, нашыя прыходы, ня маючыя юрыдычных правоў ня меньш трымаюцца свабоднай воляй народу. Ведама, камунізм бачыць у рэлігіі кепскі пачатак, але царква жыве і мацнее.

— Але ўсё-ж ад царквы шмат адпала.

— Ведама, лік адступнікаў роўны сотні тысячаў, а можа быць і міліонам, але-ж, адпалі тыя слабыя, якія ужо і раней толькі на папарце лічыліся хрысьціянамі, якім і раней рэлігія была цяжарам. У агні іспытаньняў згарэлі толькі саломенкі, а самы будынак царк-

вы ўсё яшчэ стаіць. Я сказаў-бы яшчэ, што іспытаньні робяць нас больш цьвёрдымі: застаўшыяся больш сплаціліся, яны зьвязаны агульнасьцю ідэяў. Яшчэ скажу, што гэты свой прыход я стаўлю вышэй дарэвалюцыйных. Ён чысты ад шкоднага і непатрэбнага элемэнту. Наша сувазь зрабілася больш інтымнай. Пры гэтым ўлада ня ставіць нам перашкодаў, калі нашая дзеяльнасьць аграмічаецца толькі сфэрай чыста рэлігійнай, і ў яе не ўваходзіць зусім непатрэбны для царквы палітычны элемэнт.

— Але вы не будзеце адмаўляць фактаў зсылкі і выслкі іерархаў.

— Як я ведаю, іерархі ціханоўскай царквы знаходзяцца ў горшым палажэньні, чым абноўленчаскія. Але-ж рэлігійную працу вядзе ня столькі епіскоп, колькі радавы сьвяшчэнік.

— Але-ж ці цосыць у вас духавенства, ці ня радзеюць яго рады?

— На гэта магу адказаць катэгарычным „не“, мы не адчуваем недахопу служыцеляў царквы. У шэрагу гарадоў ёсьць у нас пастырскія школы. У Пецярбургу пры эстонскай царкве Івана Міласьцівага мы маем вышэйшыя багаслоўскія курсы, працуючыя пад кіраўніцтвам прат. Н. К. Чукава. Вам зразумела, што туды паступаюць толькі ідэёвыя людзі, і робяцца адданымі справе пастырамі. Апроч таго мы тут бачым яшчэ адну сымптомічную зьяву—сьвяшчэнства прыймае шмат інтэлігэнтаў. Я ведаю шэраг асобаў, маючых вышэйшую адукацыю, якія у цяперашні цяжкі для царквы час пастанавілі пасьвяціць сябе справам ралігіі. Дзеля таго, што не заўсёды народ можа матэрыяльна абезпечыць сьвяшчэніка, то дзеля гэтага яны разам і займаюць звычайныя становішчы. Паўтараецца такім чынам гісторыя старой хрысьціянскай царквы, калі прэсвітары служылі царкве дарма.

— А якое матэр'яльнае становішча царквы у правінцыі?

— Пры аграрнай рэформе большасьць сьвяшчэннікаў атрымала зямлю, адпаведаючую сялянскаму надзелу, і гэты кавалак—галоўная крыніца істнаваньня некаторых. Ну, а ў большасьці выпадкаў сьвяшчэнікі жывуць, як і раней, з платы, атрымліваемай з трэбаў. Народ моцна трымаецца сваей веры, і пастырам жабраваць ня прыходзіцца.

— Ці мацнее сэктанства?

— Ведама, нахіл у сэкты ёсьць досьць вялікі, але гэта заўважываецца там, дзе у прыходах пануе афіцыяльнасць, дзе пастыры выяўляюць мала ідэёвасьці. Народ шукае духоўнага пакорму, і уходзіць адтуль, дзе яго няма. Я ізноў скажу, што, з майго пункту гледжаньня, гэта ня няшчасьце, а іспытаньне, якое прымусіць веруючых цясьней сплаціцца, а пастыраў — зрабіцца больш актыўнымі. У дарэвалюцыйны час пад апекай ураду шмат супакоілася у пясчыстай затоцы. Цяпер, у пэрыяд бураў, веруючая маса ўскалыхнулася.

(аканчаньне будзе).

# 10-гадоў таму назад.

(З успамінаў аб працы Маскоўскага Сабору ў часе бальшавіцкага перавароту).

Часы бальшавіцкага перавароту, які ў С.С.С.Р. так урачысто на гэтых днёх адсьвяткавалі, мне як раз прышлося правясьці ў Маскве, дзе я выбарны прадстаўнік ад Віленскай эпархіі*) быў сябрам вялікага Маскоўскага Сабору.

*) Прадстаунікамі Віленскай, ці як тады звалася, Літоускай эпархіі апрача эпархіяльнага архіерэя, якога абавязкі вышауняу уладыка Елефуеры, былі сьвяшч. а. Павел Кубаеускі, даякан Лівай, В. Кл. Недельскі, А. И. Огіевіч і я, пішучы гэтыя успаміны.

Аб гэтых часох, праведзеных у Маскве, ў мяне дасюль яшчэ захаваліся кароценькія запіскі ў маей кішанькової кніжцы.

Гэтымі запіскамі у сваей кніжцы, а часткай уражэньням па памяці, у якую досіць моцна ўрэзалася ўсё перажытае ў гэтыя смутныя дні, я і хачу падзяліцца з сваімі чытачамі.

25-26 кастрычніка. Адрывачныя газэтныя чуткі з Петраграда аб перавароце. Ніхто добра і дакладна ня ведае, але чуецца, што пераварот насьпевае і ў Маскве.

27. На вуліцах першыя прызнакі межусобнай вайны, там сям пападаюцца ўзброеные рабочыя, носяцца аўтамабілі з салдатамі з вінтоўкамі „нагатове“.

28. З ночы пачалася кананада гарматаў, пальба з ружжаў і кулямётаў. Дзе, хто, адкуль і ў каго стрэляе, добра ня ведама, а нават і разабраць трудна. Відаць толькі, што найбольш гарачая пальба каля будынку маскоўскай думы, на тэатральным плацу і каля крэмля.

А 9-тай з паловай гадзіне раніцай яшчэ перад паседжаньнем Сабору прайшоўся я па Пятроўцы (вуліца) аж да самага тэатральнага пляцу. Далей ісьці было ня можна, бо там ішла гарачая пальба: кажуць, што гэта юнкеры бяруць Крэмль. Кананада не сьціхае цэлый дзень, гарматы палюць бяз перарыву. Пад іхны грохат сабралося пленарнае паседжаньне Сабору*). На саборы ўсё ішчэ ідзе пытаньне аб тым, ці захаваць сінадальны строй, ці выбіраць патрыарха,—пытаньне, якое ўвесь час займало Сабор больш, чым усе другія і было усьцяж прэдметам дыскусіяў і на паседжаньнях Сабору і на прыватных сабраньнях. Пад гром кананады неяк адразу ўсе панялі, што гаварыць даволі, што ня трэба больш адцягіваць справу тым больш, што, яўна ўжо с папярэдніх каля сотні прамоў выясьнілася перавага на старане „паттыархістаў“. Далейшыя дыскусіі былі спынены (аставалася яшчэ запісаўшыхся больш 90 аратараў) і Сабор пад гром пушак пыняў пастанову аб узнавеньні патрыаршэства ў Расейскай Царкве, скасаванага 200 гадоў таму назад імператарам Пятром I.

Пасьля абеда ізноў з некалькімі сябрамі сабору (Весялоўскім з Зарайску Разанск. губ., Новаграбленавым з Камчаткі і нашым Віленцам Ліваем) пайшлі на вуліцу паглядзець, што робіцца. Прайшлі ўніз па Пятроўцы да тэатру і астанавіліся каля вялізарнага будынку унівэрсальнага магазіна „Мюр і Мэрыліз“. Далей не пускалі. На Тэатральным пляцу ішла гарачая перастрэлка,—гдзе, хто, у каго-разабраць было трудна. З нашага мейсца нам відаць была невялічкая частка Тэатральнага пляцу; людзей на ем не было відаць. Каля тэатру схаваўшыся троху за выступ сьцяны стаяла групка чалавекі тры салдатаў з адной вінтоўкай: напэўна бальшавікі пікет.

У гэты мамэнт я заўважыў, што нейкі чалавек бяз аружыя шпарка пабег праз пляц у напрамку ад другога канца магазына „Мюра“ да Тэатральнага скверу... Нешта шчолкнула... Чалавек узмахнуў у гару рукамі і, зваліўшыся, пакаціўся па зямлі. Я аглянуўся ў права: адзін з салдатаў пікета спакойна ўкладываў новую абойму ў вінтоўку. Толькі тады я паняў, што стрэлялі ад гэтуль і што гэты пікет і забіў чалавека.

Адкуль - сь з - за вугла выехаў санітарны аўтамабіль, раненага, ці забітага ўзлажылі на яго і павязьлі міма нас. Малады хлапец у цывільнай адзежы з бледным ліцом ляжаў папярок самаходу на каленях у сясьцёр і санітараў. Адна сястра трымала на яго грудзях ком белай марлі, якая шпарка абфарбовывалася ў ярка чырвоны коляр... Хто, каго, за што? — узноў мімаволі ўстала пытаньня. Стала немагчыма цяжка і мы пашлі дамоў.

К начы кананада стала троху ўціхаць. Трашчалі толькі вінтоўкі і кулямёты. Расказываюць, што карыстаючы з меж-усобнай вайны, абразаваліся шайкі грабіцяляў, які робяць напады на прыватныя дамы і грабяць жыхараў. Дзеля гэтага сябры сабору, якія жылі ў інтэрнаце сэмінарыі (каля 300 асоб) рашылі зарганізаваць з саміх сябе начную ахрану, хоць і безаружную, каля ўсіх варот, на дварэ і ў садзе.

29. Учора гадзіны каля 2-й у начы гарматы зусім змоўклі, чулася ды і то рэдкая стральба з вінтовак і кулямётаў. Ад раніцы сяньня кананада і пальба ўзнавіліся яшчэ з большай сілай. У гэты дзень (нядзеля) назначана было у „храме Хрыста Спасіцеля“ ўрачыстае багаслужэньне маскоўскага мітрапаліта Ціхана (пасьля патрыарх). Стараўся і я папасьці туды на абедню, але неўдалося. Якімі-б пуцямі я не кідаўся ісьці па Садовай, па Броннай, па Спірідонаўскаму, усюдах натыкаўся на пальбу з вінтовак і кулямётаў. Удоўж Цьвярской вуліцы ў напрамку на Крэмль немаль безперарыву ляцелі снарады з гарматаў. Гукі выстрэлаў і візг лятучых і разрываючыхся снарадаў мімаволі зму-

---

*) Плянарныя паседжаньня сабору вяліся у залі эпархіяльнага дому на Ліхавым перавулку.

шываў ўцягіваць галаву ў плечы. Але-ж Цьвярскую я мінаў бяз шкоды. Далей, аднак, калі я паспрабаваў сунуцца праз нейкія перавулкі бліжэй да Крэмля, каб выйсьці на Маскву - раку, з боку Крэмля пасыпаўся такі густы дождж куляў, што прышлося адрачыся ад далейшых папытак, і тым-жа шляхам, перасекаючы Цьвярскую вуліцу, вярнуцца дамоў. Пасьля разказалі, што не ўдалося дабрацца да сабору і самаму мітрапаліту. Адзін з снарадаў разарваўся недалёка ад яго карэты. Даехаўшы толькі да Вазнясенскай царквы і ён змушаны быў вярнуцца назад.

Вечарам была лекцыя праф. Сакалова аб розных „способах избранія патріарха", меўшая на мэце падгатовіць сяброў сабору да заўтрашняга паседжаньня.

Пальба ня сьціхае. З фронта ідуць весткі, што там нашы салдаты „братаюцца" з немцамі. На фронце братаемся, а ўнутры дзярэмся!

30. У начы члены сабора ўзноў дзяжурылі каля варот і ў садзе. На паседжаньні раніцай посьля ня дужа доўгіх дыскусыяў прыняты з маей паправкай парадак выбараў патріарха. Пастанавілі сяньня намеціць толькі кандыдатаў, а заўтра з гэтых кандыдатаў выбраць трох асоб, з якіх аднаго выбраць пры помачы „жрэбія" (лёсаваньня). Намечана 25 кандыдатаў.

31. Ізноў без перарыву стрэльба і кананада. Чацьверты дзень! Нэрвы пачынаюць здаваць. На паседжаньні сабора пад грохат пальбы, якой яшчэ ня было, пасьля трох паступоаых галасаваньняў выбраны астатнія тры кандыдаты: Антоні (Храпавіцкі, архіеп. Харькаўскі, Арсеній, архіеп. Наўгародзкі, і Ціхан, мітр. Маскоўскі).

Вечар прайшоў бяз працы. З вакон трэцьцяга паверха глядзелі на цёмную массу Масквы, пэрыадычна асьвятляемую з розных бакоў успышкамі гарматных выстралаў.

Таска немагчымая!

1 лістапада. Раніцай быў на паседжананьні: „о высшэм церкоўным управленіі". Рашалася пытаньня „о качествѣ" голосов членов собора".

У атмосфэры междуусобнай бойні працуецца плоха. Папярэдні пад'ём нэрваў пачынае зьмяняцца ўпадкам. Учора ўвечары было зроблена прыватнае савешчаніе сяброў сабору. Гаварылі аб цяжкім палажэньні членаў сабора: правізіі не хапала, сутачных грошаў ўжо не выдалі, паднімалася пытаньне аб тым, каб усім раз'ехацца. Але сярод гэтых маладушных чуваць было і трэзвых галасоў: у такую цяжкую хвіліну стаяць на сваім пасту і не пакідаць працы. Гэтыя астатні настрой перамог.

Гэты дзень 1-га лістападу прайшоў трывожней, чым папярэдні. Кананада рабілася ўсё сільней і сільней. Хто пераможа, яшчэ было невядома, але здавалася, што перавага была на старане бальшавікоў. На іх старане былі гарматы, падаўляючая большасьць салдатаў і снарады. Юнкеры запёрліся ў Крэмлі відаць дастрэлівалі астатнія патроны да і тыя, як гаварылі (ня ведаю ці праўда), яны хітрасьцю выманілі ў бальшавікоў перадзеўшыся ў салдацкую адзежу і прыехаўшы да складу снарадаў, быццам салдаты паўстанцы.

Гэтай ноччу бальшавікі пастанавілі ўзяць Крэмль штурмам. Відаць што вялася падгатоўка да штурма. Стрэлялі з усіх часьцей. Па вуліцах металіся аўтамабілі з салдатамі з вінтоўкамі „на прыцэл".

Вечарам паседжаньні аддзелаў і камісіяў сабору прышлося адмяніць, бо была небязпечна выходзіць на вуліцу.

(Працяг будзе).

**В. Багдановіч.**

## Маламажэйкаўская „мураванская" царква (Лідск. пав.).

Вось ужо скора два гады, як нашая Маламажэйкаўская царква, маючая назоў „Мураванскай", зачынена. У лютым прошлага году памёр наш сьвяшчэннік а. Леў Савіцкі, які праслужыў у нас 63 гады. Пасьля яго сьмерці Лідзкі стараста праз паліцыю апячатаў царкву, адабраў у псаломшчыка ключы і ня хоча зьвярнуць аж да гэтага часу.

З зачыненьнем царквы палажэньне у нашым прыходзе, маючым больш за 2000 душ, стала надта цяжкім. Па не-

катарым нявыгадам, шмат прыхожан не маюць магчымасьці бываць у царквох суседніх прыходаў, якія знаходзяцца ад нас у досьць значных адлегласьцях.

Аб адчыненьні царквы парахвіяне хлапаталі, дзе толькі можна. Ездзілі у гэтай справе ня толькі да п. старосты і п. ваяводы, але і у Вільню да Архіепіскопа і ў Варшаву да Мітрапаліта і нават у Міністэрства. Усюды абяцалі разгледзіць справу, але... нажаль ніякіх рэальных рэзультатаў не атрымалі. У астатні час нашым дэлегатам у старостве абвешчана, што ўся справа скіравана у міністэрства; у міністэрстве ж кажуць: „будзце спакойны, справа адаслана да мітрапаліта, ад каторага ўсё залежыць“, а мітраполія адпраўляе ізноў у міністэрства, кажучы, што ўся справа залежыць ад гэтага апошняго. Зьяўляецца нейкае зачарованае кола. Куды зьвернуцца, што рабіць для звароту нам нашай царквы, няведама.

Цяжка нам тут ўсё гэта перажываць!

У той час, як мы маем надта добрую вялікую царкву, пабудаваную яшчэ у пачатку XV веку, мы прымушаны адпраўляць богаслужэньне у старой капліцы недзе за вёскай на магілках; у гэнай капліцы можа зьмясьціцца толькі прастол, а народ мусіць стаяць пад голым небам.

Некатарыя цьвердзяць, што нашая царква, як быўшая уніацкая, а значыцца і быўшы касьцёл, ізноў павінна стацца касьцёлам, ці уніяцкай царквой. З гэтым мы ніяк ня можам пагадзіцца, тым больш, што наша царква збудавана немаль што не за 200 гадоў да вуніі. Пабудована яна алтаром на ўсход, алтар ад царквы аддзелены моцнай мураванай сьцяной больш аршына у таўшчыну, і гэная сьцяна падпірае свод царквы; вось ужо дзеля гэтага нельга гаварыць аб тым, што гэная сьцяна збуцавана пазьней. На зьнешніх сьценах вежаў здаўна зроблены з цэглаў выпуклыя васьміканцовыя крыжы. У часе рэмонту царквы у 1871—72 г. пры ачышчэньні мейсца ўнутры царквы знойдзена шмат вялікіх каменных плыт, пад якімі знойдзены сьляды пахаваных нябошчыкаў. На адным з гэтых камняў захавалася надпіс: „Р. Х. 1496 Хрыстоў раб іерей Авраам“. Гэта даказывае істнаваньне царквы яшчэ ў XV веку.

Цяпер мы нямаем ужо магчымасьці маліцца ў гэтай дарагой для нас царкве, у якой маліліс столькі нашых продкаў.

Муравanская царква дорага ня толькі для мясцовых прыхажан, яна дорага і для каждага праваслаўнага Беларуса; яна злучае нашыя часы з глыбокай мінуўшчынай, яна нам сьведчыць, што народ наш спавядаў сваю веру і ў старадаўнія вякі, так, як спавядае яе і цяпер.

Адабраўшыя у нас царкву ня хочуць яе нам зьвярнуць, але і аддаць яе дзесятку тутэйшых каталікоў ня маюць сьмеласьці, дый самі каталікі гэтага ня толькі ня вымагаюць, але нават і не жадаюць.

Была тут спроба арганізаваць уніяцкі прыход: гэтым летам прыяжджаў да нас рэнэгат Гапановіч і абяцаў адразу-ж адчыніць царкву, толькі з умовай, каб мы падпісалі ужо напісаную ім паперу, але як ён ні стараўся, што ні казаў, але не абдурыў аніводнага чалавека.

Гапановіч абяцаў зьняць печаці і адчыніць царкву. Яму гэта можна! А нам... а мы павінны ісьці ў лес, на могілкі. і там, у напоўразваленым будынку некалі тут быўшай каплічкі адпраўляць Божую Службу, аплаківаючы нашую старую праваслаўную царкву, вартаўнікам якоў быў у працягу больш, паўсотні гадоў нябошчыка. Л. Савіцкі.

Мураванскі прыхожанін.

# Нраўственныя падставы коопэрацыі.

Коопэрацыя — гэта соцыяльная форма, стыхійна вырастае ува ўсіх краёх з эканамічнае нужды працаўных масаў. Аднак-жа было-бы памыльным думаць, што толькі адна матэр'яльная нужда як-бы аўтаматычна заўсёды прыводзіла да аўтаматычнага ўзнікнавеньня коопэратываў. Мы часта можам бачыць у

жыцьці, як рожна адбіваецца нужда на рожных людзях: у адных яна закаляе волю, падымае энэргію, памагае напрагаць усе высілкі, каб ня гледзячы на ўсе беды адстаяць існаваньне асабіста свае і сваей сям'і; на другіх яна адбіваецца разслабляючы, паралізуе іх энэргію, робіць іх апатычнымі, няўстойчывымі, няздольнымі да барацьбы за лепшую будучыну.

Коопэратыя можа з пайбольшым пасьпехам узьнікнуць там, дзе нужду адчуваюць перадусім людзі маральна здаровыя, дзе ў барацьбу з ею ўцягіваюцца характары рашучыя і моцныя.

Нужда дае толькі повад для тварэньня коопэратываў, сіла-жа, якая адна запраўды можа тварыць і пашыраць іх істнаваньне і разьвіцьцё, караніцца ў душах людзей, у іх характарах.

І гэта зусім не прыпадкова, што ўва ўсіх краёх мы бачым у крыніцы коопэрацыі людзэй, рожнячыхся ад другіх вялічыям, сілай духа, моцнай любоўю да чалавечаства, перакананай верай у значэньне праўды і справядлівасьці.

Гэты сільныя духам людзі няўстрашыма плывуць проціў цячэньня і сьмела ідуць на супатканьне з вялікай труднасьцю, і часта гатовы бываюць прынясьці сябе ў ахвяру за веру ў магчымасьць палепшыць матарыальны дабрабыт грамадзянства і ў гэтай сфэры здейсьніць імкненьня да брацкіх адносін паміж людзмі.

Хто хаця бегла праглядзеў агульную гісторыю коопэратыўнага руху, таму стане ясным, што падставы коопэрацыі перад усім нраўсьцьвеннага характару, што коопэрацыя можа істнаваць і шырыцца толькі там, дзе на чале коопэратыўнай працы стаяць натуры высока-чэсныя.

Там-жа, дзе перад усім істнуе эгаізм, скрытая, альбо адкрытая ўласная карысьць, разьвіцьцё коопэрацыі ня можа мець мейсца і ператвараецца ў карыкатуру. Сувязь коопэрацы з этыкай станавіцца зусім зразумелай, калі мы прадставім сабе, што коопэрацыя па сваей сутнасьці — ёсьць ваплашчэньне прынцыпа салідарнасьці.

Яна імкнецца да таго, каб згуртаваць народ у адну вялікую дружную сям'ю, прымірыць і зьнішчыць клясавыя, нацыянальныя і палітычныя спрэчкі, даючы кожнаму асобнаму індзівідууму тыя правы і накладаючы тыя абавязкі, пры ўзаемным выкананьні якіх людзі мелі-б магчымасьць лягчэй перажываць усялякую няўзгоду і па брацку карыстацца матэрыяльным прыбыткам.

Коопэрацыя — ёсьць згода, дзеля гэтага яна безумоўна прыўчае людзей дахадзіць ува ўсім да згоды і ўзаемнай помачы. Там, дзе умацовываецца коопэрацыя,— няма падставаў для праціўлеглых інтарэсаў, а дзе інтарэсы людзей знаходзяцца ў згодзе, там няма падставаў для раздораў, барацьбы, вайны і гэд. далей.

Калі коопэрацыя—згода, дык яшчэ з большым правам можна цьвердзіць, што коопэрацыя—ёсьць свабода і дабрабыт.

Аднак-жа гэту свабоду нельга зьмешываць з праізволам, з неабмежаваным панаваньням сваякарысных інтарэсаў. Такой свабоды коопэрацыя ня дае; наадварот,яна зьвязывае, накладае на сваіх сябраў пэўныя абавязкі для коопэрацыі да ўласнае нажывы,указуе сваім сябрам у гэтым напрамку акрэсьленнае захаваньне. Але ў гэтым сьцесьненьні ї абмежаваньні асабістае волі і ёсьць крыніца запраўднае свабоды, якая выяўляецца нічым іншым, як толькі ў дабравольным падчыненьні агульным законам, і правуі моралі. Свабоды няма там, дзе ёсьць праізвол, неабмежаваныя выяўленьня страсьці і г. д. Свабодны ня тыя, якія робяць, што хочуць, а тыя, якія ведаюць, што яны павінны рабіць і гатовы падпарадкавацца гэтаму „п а в і н н ы“ бяз усякага вонкавага прымусу.

Разам са свабодай коопэрацыя дае сваім сябрам дабрабыт, г. зн. абязпечывае іх матр'яльнае становішча, дае разумнае задаваленьне іх фізычным і душэўным патрэбнасьцям. Усе яе прадпісаньні і абавязкі скіраваны да дасягненьня гэае іменна мэты. Апошняя мэта коопэрыі устанаўленьне такога строю, пры якім усе людзі былі бы яе сябрамі і знахадзілі бы у ей працу, адпаведна сваяму жаданьню і здольнасьцям такой гармоніі, якая замяніла-б сучасныя діссанансы і дзікі гоман барацьбы, пры якой кожны зьяўляецца ворагам усіх другіх.

Хаця звычайна людзі, уступаючы сябрамі ў коопэратывы, і незаўсёды разумеюць, што яны ўводзяць у новы выс-

шы мір адносін, гдзе кіруюць законы лепшага і больш чыстага жыцьця,— але-ж гэта так. У істоце коопэрацыя толькі тады можа утварыць больш чыстае і харошае гаспадарчае і грамадзянскае жыцьцё, калі ўсе яе сябры пранікнуцца гэтай ідэяй і будуць паступаць згодна з яе прынцыпамі. Кожны коопэратыў будзе толькі тым, што з яго зробяць яго сябры.

Пры атсутнасьці моральных пад'ёмаў коопэрацыя ня можа разьвівацца і пашырацца, ня можа разьвярнуць сваю лекарскую помач сярод людзей, якія наравяць выкарыстаць яе коштам сваіх блізкіх, якія толькі хочуць браць, нічога не даючы, якія ахвотна пажынаюць плады супольнае працы сваіх сяброў, а самі укланяюцца ад выкананьня сваіх абавязкаў.

Коопэратывы нельга садзіць на любым грунце. На зацьвердзеўшым эгаізму і пакрытым каменьнямі жорсткосэрдэчыя і несправедлівасьці грунце коопэратыў ня пусьціць карэньняў, не гледзячы нават на пабочную дапамогу.

Наадварот, там, дзе ў грамадзянстве якога-небудзь места, або вёскі жывуць салідарнасьць, разуменьне свайго абавязку, добрасовеснасьць і добрыя імкненьня—кооператыва у кароткі час дасягае расьцвета і дае карысныя рэзультаты. Дзеля гэтага можна сьмела казаць, што разьвіцьцё коопэрацыі у якой-нібудзь краіне служыць пэўным доказам нраўственнага пазёму яе грамадзянства.

Той, ці іншы народ ня можа даць лепшага доказа аб сваім характары, лепшага апраўданьня сваяго істнаваньня і прэтэнсый на выдатнае палажэньне у вялікай сямьі народаў, як сваею здольнасьцяй давесьці коопэрацыю у сваім краі да стану і разьвіць на коопэратыўных асновах сваё гаспадарчае жыцьцё.

І калі народ гэтаго дасягне, дык ён працуе ня толькі для сваяго ўласнага дабрабыта і дабрабыта будучых пакаленьняў, але і для прагрэса ўсяго чалавецтва, для зьдзейсьненьня ідэала: „На зямле мір“.

**Вукол.**

# ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА.

## Пасланьне мітр. Пятра.

Месцаблюсьціцеля Ўсерасійскага Патрыяршага Престола, Высокапрэасьвяшчэннага Петра, мітр. Круціцкага, архіпастырам, пастырам і ўсім дзецям (чадам) расійскае праваслаўнае царквы*).

Маё вельмі адказнае палажэньне ў царкве Божай і то даверые, ў якое я апрануты з боку маіх сабрацьцяў—Архіпастыраў і ўсіх верных дзяцей сьв. царквы, абавязуе мяне даць раз'ясненьні нейкіх зьявішчаў царкоўнага жыцьця, зьвязанага з маім імям.

I. З 10 сьнежня 1925 году я апынуўся ў выключных варунках істнаваньня. Па своечасна зробляному распаражэньню, у кіраваньню царквою павінен быў уступіць высокапрэосьвяшчэный Сергій, мітрапаліт Ніжэгародзкі.

Пазбаўлены магчымасьці бязпасярэдня наглядаць за царкоўным жыцьцём, я жывіўся ўсялякімі весткамі, выключна горкімі і цяжкімі. З глубокім жалем я чуў аб быццам паступіўшай за маім арыштам царкоўнай разрусе. А вестка, што мой замясьціцель мітр. Сергій, также знахадзіўшыся ў выключных варунках, ня можа нясьці ўзложанае на яго паслушаньне і нават гатоў ісьці на адпачынак (на пакой), мяне хворага і зусім разьбітага (4 лютага я быў паложаны ў шпіталь цажказахварэўшым сярод іншых нядугаў і вострым нэрвным растройствам) аканчальна ўкінула („повергла“) ў нявыразную тугу.

Мяне няадступна агартала думка, што я павінен знайсьці выйсьце, і 1 лютага 1926 году я рашыўся на ведамый

*) Рэдакцыя атрымала копію гэтага пасланьня м. Пятра, здаецца, яшчэ недзе у Польшчы ня надрукаванага. Маючы на увазе зацікауленьне пытаньнем аб палажэньні правасл. царквы у СССР, у сувязі з вядомым выступленьням м. Сергія, зьмяшчаем яго поунасьцю у пераходзе на беларускую мову.

крок-стварыць асобную калегію для кіраваньня царквою, у гэты-жа час для супольнае працы ў гэтай калегіі вызначыў яшчэ некалькі іерархаў, ведамых сваей цьвёрдасьцью і адданасьцью да царквы Божае, а трохі пазьней запрасіў сюды высокапрэасьвяшчэннага Арсенія, мітр. Ноўгародскага, катораму праз мяне была паслана тэлеграма, тэлеграфам я паведаміў і мітр. Сергія. Такім спосабам я меў на мэце стварыць аўтарытэтнае ўпраўленьне, і ўрад, як мне заяўлялі, з гаджаўся легалізаваць яго.

У названую калегію я ўвёў і добра цяпер усім знанага царкоўнага самачыньніка архіеп. Грігорыя. Тагды я і ня падазраваў, што гэны архіпастырь бязчынствуе, я быў пераканаваны, што ён знаходзіцха ў поўным едзіненьні з праваслаўным епіскапатам. Толькі значна пазней узнаў я дзейсную праўду. Але і тагды, калі я пісаў рэзалюцыю 1 лютага, Гасподзь, напэўна, ня пакінуў мяне. Я і гэту рэзалюцыю пісаў у варункавай форме: „калі праўда, што мітр. Сергій пазбаўлены магчымасьці кіраваць". Радуюся, што гэта рэзалюцыя, плод глубока-духоўнай развагі, ня вайшла ў жыцьцё і дзякую Господу Богу, прадставіўшаму мне магчымасьць пісьменна зьніштожыць калегію, сьцьвердзіць праўдзівасьць прынятых праз мітр. Сергія мер-запрашчэньня ў сьвяшчэнаслужэньні архіепіскапа Грыгорыя і аднамыслячых яму архіереяў з адстраненьнем іх ад кафедраў.

II. Пад уплывам пісьма мітр. Сергія з паведамленьнем аб рашэньні вярнуўшагася з ссылкі высокапрэасьвяшчэннага мітр. Агафангэла, — першага патрыаршага замясьціцеля — яшчэ ў 1922 годзе ўзяць у свае рукі кіраваньне царквою, я ў пісьме ад 22 мая, вітаючы гэтую рашучасьць, прасіў яго для дабра царквы і для аддаленьня „раздораў" узяць на сябе выпаўненьне абавязкаў месцаблюсьціцеля.

Пытаньне-ж аб аканчальнай перадачы абавязкаў я прэдпалагаў выясьніць па вазвращчэньні высокапрэасьвяшчэнейшага мітр. Кіріла, катораму у марцу канчаецца тэрмін ссылкі. Але мітр. Кірыл ня вярнуўся, і тагды ў пісьме на імя мітр. Агафангэла ад 9 чэрвеня я падцьвердзіў яму перадачу месьцаблюсьціцялескіх правоў і абавязкаў, пры чым перадача гэта была абстаўлена варункамі.

У выпадку адказу мітр. Агафангэла, пісаў я, ад атрыманьня ўлады, ці нямагчымасьці здзейсьненьня, правы і абавязкі патрыяршага месцаблюсьціцеля зноў павертаюцца да мяне, а замясьціцельства да мітр. Сергія.

Гэтым-жа пісьмом была зьніштожана і створаная 1 лютага калегія, зусім ануліравана з першага лютага рэзалюцыя і былі сьцьверджаны наложаныя на архіереяў-самачыньнікаў „пращенія" (кары). На маё пісьмо мітр. Агафангэл адказаў (уласнаручна подлінік перахоываецца ў мяне), што па старасьці гадоў і вельмі разстроенаму здароўю ён адмаўляецца прыняць на сябе абавязкі месцаблюсьціцеля патрыяршага прэстола.

Гэтаю адмоваю, ня маімі высілкамі (я ня імкнуся ўтрымаць за сабою ўладу і для дабра царквы заўсёды гатоў яе перадаць), а воляй Божай, свабодным рашэньням мітр. Агафангэла пытаньне аб яго месцаблюсьціцельстве адпадае сама па сябе. І дзеля таго падпадуць строгаму суду-засуду тыя, хто прыкрываючыся дабром царквы, стане ўжываць засілкі выставіць старца Божага на месцаблюсьціцяльскае становішча і яны будуць рабіць цяжкае прэступленьне перад сьвятою царквою.

Усім верным во Хрысьце благадаць і спакой ад Госпада і Бога і Спаса Нашаго Іісуса Хрыста.

Маліцеся і ў ўпаваньні веры вашай мужайцеся і укрэпляйцеся".

Патрыаршы месцаблюсьціцель сьмірэнны Пётр, мітрапаліт **Круніцкі.**

1 сьнежня 1927 г.

УВАГА: 21 сьнежня ў размове з архіепіскопам Грыгорыем, зьявіўшымся да мяне на пабачаньне ў Сьвердлоўскую турму, я асабіста яго паведаміў, што ён знаходзіцца вне малітвена-канапічнага абшчэньня з нашым сьмірэньнем, брацкі угаварываў падчыніцца маему і мітрап. Сергія рашэньню і засьцярог, што ўвадзімая ім і яго старонпікамі смута ня можа быць цярпіма у Праваслаўнай Царкві.

**Мітрапаліт Пётр.**

Пашырайце сваю часопісь сярод праваслаўных чытачоў.

# Палітычная хроніка.

— **Роспуск Сойму і Сэнату.** 28 лістап. Сёньня сэкрэтар прэм'ер-міністра даручыў у прэзыдыум абедзьвёх палатаў наступнае пісьмо:

Распараджэньне п. Прэзыдэнта Рэспублікі ў пытаньні аб роспуску Сойму і Сэнату.

На падстав 26 ст. I аддзелу ў сувязі з 36 ст. II аддзелу Канстытуцыі, развязываю Сойм і Сэнат з прычыны ўплыву тэрміну, на каторы яны былі выбраны.

Падпісана:

Прэзыдэнт Польскай Рэспублікі **Ігнат Мосьціцкі.**

Старшыня Савету Міністраў **Язэп Пільсудскі.**

— **Блёк нацыянальных меншасьцяў.** З пэўных крыніц нас паведамляюць, што 27-га ў вечары паміж прадстаўнікамі ўсіх нацыянальных меншасьцяў заключён блёк. У хуткім часе будзе аб гэтым выпушчаны кямунікат.

— **Югаслаўска-Французкі і Албано-Італьянскі дагаворы** Як паведамляюць тэлеграмы, Францыя з Югаславіяй заключылі і падпісалі прыяцельскі дагавор. Дагавор падпісаны ў Парыжу, дзеля якой мэты югаслаўскі міністр замежных спраў Марынковіч выежджаў туды. Дагавор вельмі ўстрывожыў Італію, процiў якой ён у дзейснасьці скіраваны для таго, штобы абмежаваць яе ўплывы на Балканах. Італьянская прэса абсуждае гэты дагавор вельмі няпрыхільна.

Каб паралізаваць няпрыемнае значэньне гэтага дагавору, Італія 22 лістапада заключыла ў Ціране прыяцельскі дагавор з Албаніей. З дыплёматычных англійскіх кругоў даходзяць весткі, што да гэтага дагавору тайна далучылася Вэнгрыя. Англійская прэса дужа востра абгаварывае гэты дагавор, бачучы ў ім нябязпеку для сусьветнага спакою. З гэтага часу пачынаецца перамога ўплываў Францыі і Італіі на Балканах.

— **Чарговая сэсыя Лігі Нацыяў.** 5-га сьнежня ў Женеве склікаецца чарговая сэсыя Лігі Нацыяў. На гэтай сэсіі між іншымі пытанямі будзе разглядацца скарга Літвы на Польшчу.

— **Канфэрэнцыя па разбраеньню.** На 1-га сьнежня ў Женеве сазываецца канфэрэнцыя аб разбраеньні. Ў канфэрэнцыі пryme учасьце Савецкая дэлегацыя, якая ўжо выехала на чале з Літвінавым і Луначарскім. Дэлегацыя пазастанавілася на 2 дні у Берліне, гдзе яна вядзе перагаворы аб супольным выступленьні ў Жэневі пры вырашэньні гэтага пытаньня.

— **Што гэта будзе?** 23-га лістапада ў Вільні адбылася палітычная канфэрэнцыя, ў якой прынялі дзейны удзел марш. Пілсудскі, міністар Залескі, віцэ-міністар Кноль і інш.

Абгаварываліся Польска-Літоўскія справы ў сувязі з надыходзячай сэсыяй Лігі Нацыяў, у якую літоўскі ўрад скаржыўся на Польшчу.

Адначаспа абгаварывалася і справа літоўскіх эмігрантаў, якія уцякаюць да Польшчы ад уціску ураду Вальдэмарса. У канфэрэнцыі прыймалі так-жа удзел войсковыя і адміністрацыйныя ўлады.

Канфэрэнцыя выклікала вялікае ўражаньне заграніцай.

— **Савецкая нота Польшчы.** 24-га лістапапда полпрэд. Багамолаў даручыў міністру замежных спраў Залескаму ноту, у якой паведамляе польскі ўрад, што ўрад С.С.С.Р. вельмі занепакоены напружаным палажэньнем, якое стварылася ў апошнія часы ў адносінах паміж Літвой і Польшчай і якое пагражае спакою. Паміж іншым нота падкрэсьлівае, што захаваньне спакою у большай меры залежыць ад Польшчы, чым ад Літвы, каторая заслабая, каб шукаць вырашэньня пытаньня шляхам узброянага канфлікту.

— **Савецка-Германскае паведамленьне.** Бюро Вольфа апублікавала афіцыяльнае Савецка-Германскае паведамленьне аб адбыўшайся нарадзе паміж Літвінавым і Штрэземанам, на якой яны зьвяртаюць увагу на небязпеку, пагражаючую спакою з поваду агрэсыўных адносінаў Польшы да Літвы.

Гэтае паведамленьне даручана ўсім

дыпламатычным прадстаўнікам у Берліне і Маскве.

— **Заява Польскага пасла Патэка** Патэк цьвердзіць, што Польшча ня мае ніякіх агрэсіўных замераў, як да тэрыторыі Літвы, так і да яе палітычнае незалежнасьці, а толькі хоча устанавіць добрыя і нармальныя адносіны з Літвой.

— **Разлом камуністычнай партыі.** Маскоўскі камітэт компартыі выключыў з партыі Троцкага, Зіновьева, Каменева, Сміглу, Радэка і інш. важакоў апазыцыі, каторыя пяпер адкрыта вядуць барацьбу з Сталіным і савецкім урадам.

— **Самаўбійства Ёффэ.** 16-га лістапада ў Маскве закончыў сваё жыцьцё выстралам з рэвальверу ведамы савецкі дыпламат Ёффэ. Як паведамляе савецкі ўрад, прычынай самаўбійства была нэрвовая хвароба; па другой вэрсыі — Ёффэ застраліўся з за ўнутранае барацьбы у компартыі, каб ня глядзець на аканчальнае разлажэньне сваей партыі.

— 23 лістапада памёр ад разрыва сэрца знаны польскі пісьменнік С. Пшыбышэўскі. Пакойны пражыў 60 гадоў.

— Прэса паведамляе, што дэкрэт Прэзыдэнта польскае рэспублікі аб выбарах у новы Сойм будзе распубкікаваны не 28 лістапада, а 2 сьнежня.

# З беларускага жыцьця.

У адказ на прывітаньне Чэхаславацкага народу 9-ці ўгодкаў свайго незалежнага палітычнага існаваньня, Старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту, сэнатар Багдановіч атрымаў ад чэхаславацкага пасла ў Варшаве наступнага зьместу: „Пане пасол! Прашу Вас прыняць і аднačасна перадаць усяму Клюбу маю ветлівую падзяку за Вашы добрыя пажаданьні з прычыны нашага народнага сьвята“.

Справа беларускай мовы ў вілен. прав. дух. сэмінарыі.

Галаўная Управа Т-ва Бел. Школы нядаўна паслала на імя м. Дыянізыя прозьбу ў спраае беларускай выкладовай мовы ў сэмінарыі з далучэньнем рэзалюцыі ў гэтай справе.

# НАША ПОШТА.

Вілейка — Ўл. Каляда. Часопісь высылаем.

Пліса—Я. Пачопка. Часопісь высылаем. Наша часопісь ня можа лічыцца раднёй памёршаму мітрапалітальнаму „Праваслаўнаму Беларусу“, бо ён бы афіцыяльны мітрапалітальны орган, а наш орган незалежны дэмакратычны; змагаючыся за нацыянальную мову, канонічнасьць і саборнасьць царкоўнага ўстрою.

Сьвенцяны. Грыгорьеву. Пішыце, што ня ўмееце чытаць па беларуску, а гэтае прычыны, просіце каб выдаваўся наш орган у расейскай мове. Гэта немагчыма, бо з аднага боку гэта будзе некарысным для нацыянальнае справы, з другога,—ёсьць шмат чытачоў, каторыя чытаюць толькі па беларуску.

РЭДАКЦЫЯ паведамляе, што да канца году ня будзе завадзіць адзелу гаспадарчага каб ня разбіваць матэр‘ялу. Гаспадарчы адзел пачне друкавацца з пачатку Новага Году.

**ЗЬМЕСТ.**



Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.